Сто дарог — адна твая

# Вёска чакае сваіх маладых руплівых гаспадароў





На здымках: у час работы семінара. Працуе круглы стол. Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.

Багаты летапіс адной з буйных у раёне навучальных устаноў — ПТВ-214 — папоўніўся яшчэ адной цікавай падзеяй.

Не так даўно на базе Хоцімскага ПТВ-215 і Клімавіцкага ПТВ-214 на працягу двух дзён праходзіў абласны семінар-практыкум па тэме: "Прафесійнае навучанне і выхаванне вучняў у рэгіёне: стан, праблемы, шляхі ўдасканальвання і развіцця". У мерапрыемстве прынялі ўдзел дырэктары прафесійна-тэхнічных вучылішчаў вобласці, а таксама работнікі ўпраўлення адукацыі Магілёўшчыны.

Мэтай семінара стала актуалізацыя стану, выяўленне праблем і фарміраванне высноў праектавання прафесійнай дзейнасці па развіццю навучальных устаноў.

Вёў мерапрыемства намеснік кіраўніка ўпраўлення адукацыі аблвыканкама Леанід Сцяпанавіч Смятрыцкі.

Перад удзельнікамі семінара-практыкума выступіў старшыня райвыканкама Уладзімір Венядзіктавіч Канавалаў, які падрабязна расказаў гасцям — удзельнікам мерапрыемства аб стане спраў у прамысловасці, сельскай гаспадарцы ў раёне. Старшыня пазнаёміў прысутных з сацыяльным, культурным жыццём Клімаўшчыны. А тут сапраўды зроблена шмат. У раёне запрацаваў прытулак для дзяцей-сірот і дзяцей з няўдалых сем'яў, гэта ж зроблена і для адзінокіх састарэлых людзей, інвалідаў, якія маюць патрэбу ў дапамозе. Аказваецца значная падтрымка навучальным установам, дзіцячым садам па рамонту будынкаў і абсталявання. На асабістым кантролі ў старшыні райвыканкама знаходзяцца спецыялізаваныя навучальныя ўстановы — сельскагаспадарчы тэхнікум і ПТВ-214. Бо агонь у кузні кадраў ніколі не павінен згасаць. Сёння якасны спецыяліст для сельскай гаспадаркі на вагу золата.

Дырэктар ПТВ-214 Уладзімір Аляксеевіч Данека расказаў удзельнікам семінара пра сучаснае жыццё навучальнай установы. У прафесійна-тэхнічным вучылішчы сёння займаецца 375 вучняў па розных спецыяльнасцях. З пачаткам новага навучальнага года плануецца ўвесці спецыяльнасць прадаўца тавараў паўсядзённага попыту для працы на вёсцы, а таксама будзе адчынены клас ліцэістаў з паглыбленым вывучэннем прадметаў. Гэта дасць магчымасць вучням добра рыхтавацца да паступлення ў тэхнікумы і ВНУ краіны. Тым больш, што падмурак для гэтага ствараюць самі юнакі і дзяўчаты. У кожнай групе сёння займаецца па некалькі выдатнікаў.

Асабліва надзеі ўскладае клапатлівы дырэктар і на вучэбную гаспадарку ўстановы. Сёлета тут пасеялі элітным збожжам усе плошчы, унеслі ўгнаенні, і калі надвор'е паспрые — дружна закалосяцца пшаніца, ячмень, авёс.

Праблемы таксама ёсць. У ПТВ-214 займаецца 17 сірот. Кожны чацвёрты вучань — з няўдалай сям'і, а кожны трэці — з няпоўнай. І таму, акрамя навучання, педагагічны калектыў вучылішча стараецца ствараць для вучняў добрыя ўмовы адпачынку і развіцця здольнасцяў маладых людзей.

З гэтай нагоды тут праведзены рамонт інтэрната, набыта новае абсталяванне і мэбля для яго.

Цікава працуюць шматлікія гурткі. Прыцягваюць вучняў ПТВ і да актыўнага заняцця спортам. Як акрэсліла ў сваім выступленні намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце ўстановы Валянціна Васільеўна Шалыгіна, за тыя тры гады, што праводзіць вучань у ПТВ, педагогі стараюцца першнаперш зацікавіць падлетка ў плённай, стваральнай працы і жыцці.

Пад час работы семінара-практыкума быў зроблены аналіз стану і сфармуляваны праблемы прафесійнага навучання і выхавання вучняў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў рэгіёна, акрэслены эфектыўныя накірункі іх дзейнасці па ўдасканаленню прафесійнага навучання і выхавання вучняў у сучасных умовах.

Адбыўся круглы стол па пытаннях павышэння якасці прафесійнай адукацыі.

У рабоце семінара прыняў удзел старшыня Савета дырэктараў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў вобласці Рыгор Мікалаевіч Маліноўскі.

Акрамя асноўнай тэматыкі семінар-практыкум дазволіў кожнаму з яго ўдзельнікаў знайсці адказы на ўласныя набалелыя пытанні. Па словах усіх удзельнікаў мерапрыемства справа гэта патрэбная, бо кожная такая сустрэча прымушае працаваць лепей.

Нагадваем, што ў ПТВ-214 можна набыць розныя спецыяльнасці. Так, па прафесіі майстар сельскагаспадарчай вытворчасці юнакі атрымліваюць кваліфікацыю трактарыст-машыніст катэгорыі А, В, Г; вадзіцель аўтамабіля катэгорыі В, С; слесар-рамонтнік 2-3 разраду, электразваршчык ручной зваркі 2-3 разраду; аператар жывёлагадоўчых комплексаў і механізаваных фермаў 4 разраду; дзяўчаты па прафесіі гаспадыня сядзібы атрымліваюць кваліфікацыю аператар машыннага даення 3-4 разраду і аператар жывёлагадоўчых комплексаў 4-5 разраду, падлікавец малака; пладаагароднік — майстар 3 класа; повар 3-4 разраду.

За тры гады вучобы кожны навучэнец можа атрымаць і сярэднюю адукацыю.

**Н. МІНЧАНКА.**

● Спадчына

## Зямля, дзе пачаўся мой лёс

**(З гісторыі паходжання назваў вёсак Клімавіцкага раёна)**

(Пачатак у №№ 29-35, 37-41).

Пасля смерці пана жонка яго аддала сваю зямлю ў арэнду багатаму селяніну з вёскі Пранічкі Паўлу Саковічу, якога ў 1929 годзе раскулачылі.

У пошуках лепшага жыцця, шукаючы ратунку ад беднасці, не маючы магчымасці пракарміцца са сваіх заняпалых гаспадарак, дваццаць чатыры сям'і з вёскі Новы Дзедзін да рэвалюцыі 1917 года выехалі ў Сібір. У асноўным пераехалі мнагадзетныя сем'і Кандрата Маеўскага, Сцяпана і Герасіма Канаплёвых, Пятра Паўлючэнкі, Фамы Старавойтава, Рамана Кавалёва, Аляксея Маханькова, Васіля Пажылова і многіх іншых. Нялёгка ім было пакідаць свой родны край, даўно абжытыя мясціны.

Дзедзінцы займаліся і дапаможным ганчарным рамяством. Рабілі гаршкі, якія потым вазілі па вёсках і прадавалі на хлеб. За гэта і далі ім мянушку — дзедзінскія гаршкалёпы.

**І. СТАЛЯРОЎ.** "Далёкае і блізкае Новага Дзедзіна". "Новае жыццё", 2 чэрвеня 1983 г.

**НЕДЗВЕДЗЬ**

Першае ўпамінанне пра вёску Недзведзь можна знайсці ў кнізе А. Дэмбавецкага "Вопыт апісання Магілёўскай губерні", т. 2. Там сказана, што ў 1884 годзе ў вёсцы было 67 двароў, 492 жыхары. У 1902 годзе вёску называлі Медзведзь.

Легенды расказваюць: 1. Раней вакол вёскі стаялі непраходныя лясы і балоты. У гэтых лясах вадзілася шмат дзікіх звяроў, больш за ўсё мядзведзяў — адсюль і назва вёскі.

2. Назва вёскі паходзіць ад польскага слова niedwied, г. зн. мядзведзь. Такія назвы даваліся населеным пунктам, вакол якіх вадзіліся дзікія звяры, у прыватнасці, мядзведзі.

**Запісала В. БУРАКОВА.**

**НЯЗНАНЬ**

Некалі праз гэту вёску праходзіў шлях, які ў народзе называлі "кіеўскім". Па ім ішлі людзі ў Кіеў і часта пыталіся, ці туды ідуць. "Не знаем" (не ведаем), — адказвалі ім. Адсюль і пайшла назва вёскі Нязнань.

**Са слоў В. В. ГЛУШАКОВА.**
в. Красоўка.

**ПЕРАВАЛОЧНЯ**

Раней людзі жылі паасобку, на хутарах. Але на гэтым месцы зямля была больш урадлівай і людзі з хутароў пачалі перасяляцца ў адно месца. Усе свае пажыткі прыходзілася пераваләкваць на сабе — адсюль і назва паселішча — Переваночня.

Але існуе і другая, больш верагодная версія паходжання назвы вёскі. Кажуць, што калі адступалі шведы, то на месцы, дзе зараз вёска, у іх быў перавал. Побач у вёсцы Пусташ захаваліся векавыя дубы. Людзі сцвярджаюць, што пры адступленні шведы закапвалі жбаны з нарабаваным золатам у зямлю, а потым садзілі дуб.

**Запісала Л. А. ШВЕДАВА.**

**ПУЦІМЕЛЬ**

На карце цяперашняга Клімавіцкага раёна ёсць пасяленне з назвай Пуцімель. Назва крыху перайначана, але цалкам захавала сваё старажытнае тлумачэнне — Пуцявішча, бо гэта вёска і зараз з'яўляецца пуцявішчам. Гэта значыць, стаіць на скрыжаванні дарог. Тут і зараз сыходзяцца дарогі з Мікалаеўкі, Мілаславіч, Іванавай Слабады, Іванаўска, Селішча, Недзведзі, Рэкты, Пожары, Старога Стану.

**П. ШАЎЦОЎ,** "Спрадвечнае", Мн., 1973, с. 143.

(Працяг будзе).

## Узники фашистских концлагерей

# Горечь воспоминаний

**БАРАНОВ Виктор Никифорович**
**(10 октября 1925 г. — 19 сентября 1999 г.)**

(Начало в №№ 29-35, 37-40).

Он не соглашался ни в какую. Требовал: давай и сейчас же. Она просила и молила. Убеждала, что хочет остаться непорочной перед мужем. Услышал угрозы, возню, ее выкрики и хрип. Посмотрел вниз. Увидел, что он держит ее за горло одной рукою, во второй руке — финка, занесенная над нею. Не вытерпел. Спустился с кровати, перехватил его руку, завернул, отнял финку. Вижу, он побежал к столу и ухватил нож. Рядом со столом спали муж и жена по фамилии Трибуль. Они из Витебской области. Он вскочил с кровати, навалился на Петра. Началась возня. Петр вырывается. Кричит, что зарежет меня. Говорит: зачем он лезет не в свое дело. В схватке Петр ножом задел Трибуля, порезал лицо. Поднялась жена Трибуля. Стала помогать ему. Я соскочил с кровати. Взял табуретку и кричу: не подходи, ударю. Отступаю от него. А Петр вырывается. Все всполошились. В комнате поднялись многие. Разве что пьяные остались на кроватях.

Кончилось тем, что Петра завернули в простынь и выбросили в окно со второго этажа. До сих пор не понимаю, как могло случиться, что до сих пор ни у меня, ни у кого, кто был тогда в комнате, не спросили: кого и за что выбросили окровавленного через окно со второго этажа. Не знаю, куда девали Петра. Знаю, что случилась неприятная история. Понимаю, что могло быть хуже. Особенно для Лены, семьи Трибуль. Да и для меня самого.

Американцы ко всему этому отнеслись спокойно. Спокойнее, чем мы теперь относимся к их кинофильмам. На убийства, насилия, жестокость в их фильмах мы смотрим, как на реальные события. Переживаем и возмущаемся. Нас все это пугает. Они тогда спокойно смотрели на жестокость, насилия и убийства. Они увидят, как наши ребята грабят или насилуют, спросят: "Ю росияно?". Услышат в ответ: "Да-да, я-я, росияно" и будто обрадуются. Отдают честь, говорят: "О'кей!" и уходят. Так поступали патрули, военнослужащие с оружием.

Тогда из комнаты выбросили окровавленного Петра. В простыне. Через окно со второго этажа. Им и это было — о'кей! Никакого разбирательства не было.

Хорошо, что американцы не долго охраняли лагерь. Их сменили англичане. Они быстро навели порядок. Требовали четкого соблюдения распорядка дня. Усилили пропускной режим. С заборов сняли пулями только двоих. Третий не полез. Ни пьяные, ни трезвые больше не полезли туда. Скоро вся жизнь изменилась к лучшему. Кончилась вольница. И слава Богу.

В августе 1945 года к нам приехали офицеры из восточной зоны оккупации Германии. С каждым из нас долго и обстоятельно беседовали сотрудники Особого отдела. Спрашивали о многом: кто? Откуда? Как попал в Германию? Где жил и чем занимался? Интересовались земляками и знакомыми по пребыванию в Германии. После нас вывезли в Советскую зону оккупации Германии.

При выезде из г. Дортмунда оккупационные власти нас ни в чем не ограничивали. Никто не интересовался, что, куда и зачем везем. Разрешали вывозить и выносить все, что хочешь, сколько сможешь.

Конечно, мы там хорошо прибарахлились. Надеялись, что все пригодится. Хоть на первое время будет во что одеться и обуться. Только все вышло не так, как мы хотели и предполагали.

Как только переехали границу зон оккупации, нас построили и объяснили, чтобы сдали оружие, боеприпасы, взрывчатые вещества, исторические и культурные ценности. Потом начались частые проверки наших вещей. С нами и без нас. Они, как правило, сопровождались изъятием предметов быта, одежды, обуви и всего, что понравится из припасенного нами. Было и такое: мы идем в пешем строю. Наши вещи в кузовах автомашин. Там солдаты их "проверяют". Проверяли они и в банях. И после каждой проверки вещей становилось меньше.

Сначала нас доставили в г. Магдебург. Там пропустили через Особый отдел, баню, медсанобработку. У меня осталось вещей почти ничего. Мне выдали бывший в употреблении, уже рваный солдатский китель. При этом утешили словами: скоро призовут на службу и там выдадут новую форму.

Через месяц из Магдебурга перевезли в Альтенграбов. Снова Особый отдел, баня, санпропускник, очередные "проверки" наших сумок и вещмешков. Из Альтенграбова пешком перегнали в Бранденбург. И все повторилось сначала. Потом были во Франкфурте-на-Одере. Там все повторялось. Правда, уже не было чего отнимать. Скоро нам выдали документы и предписания для предъявления в военкоматы по месту рождения или проживания родителей. Мне выдали документы для предъявления в Климовичском райвоенкомате. Появилась надежда на скорое возвращение домой.

Из Франкфурта-на-Одере нас на автомашинах перевезли в Березу Картузскую. Там скоро распространился слух, что нас отправят на Урал, на работу в шахтах.

Вскоре на построении начали изымать документы, выданные нам во Франкфурте-на-Одере. Когда у меня потребовали документы, я сказал, что потерял их.

Мне не хотелось ехать на Урал. Я очень хотел в Буду Высокую, домой. С 1 августа 1943 года, со дня отправки меня в Германию, это хотение было самым сильным и самым постоянным.

Усталость от перевозок и перегонов из одного лагеря в другой, от неопределенности положения и тягостных допросов в Особом отделе, от шмонов в каждом лагере и в каждой бане заставила меня бежать домой. Бросить все и бежать. Не думал о том, что будет после. Не боялся того, что может быть за побег. Было только так сильное желание поскорее попасть в Буду Высокую. Казалось, что там будет мир, покой, кончатся мои мытарства.

(Продолжение следует).

